Cena 60 gr. Цана 60 гр.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 7 (155) БЕЛАСТОК, 15 ЛЮТАГА 1959 года ГОД IV

ЧЫТАЙЦЕ СЁННЯ Ў НУМАРЫ




Стар. 4-5

Беларускія цымбалісты Б. Буркевіч і М. Шмелькін на сцэне Беластоцкага тэатра паказалі высокую мастацкую тэхніку. Фота — І. Рыбінскі

## Узрастае лік гурткоў БГ-КТ

8 лютага ў вёсцы Крывая (Бельскі павет) створан гурток Беларускага таварыства, у які ўступіла 28 асоб — дзяўчат і хлопцаў. Старшынёю праўлення гуртка выбрана настаўніца Ольга Тамчук. У склад праўлення выбраны — Люба Карытка, Сцяпан Сахарчук, Анатоль Гаркавы, Георгі Чэркас і Рыгор Краўчук.

Таксама ў нядзелю, 8 лютага, арганізаваўся гурток Беларускага таварыства ў вёсцы Лохніца, у які ўступіла 11 асоб. Старшынёю праўлення гуртка выбраны Іосіф Зінкевіч. У склад праўлення выбраны — Валя Кучынская, Аляксей Ігнацюк, Марыся Міхальчук і Ніна Астапчук.

### Святкаванне 40-годдзя БССР і КПБ у фатаграфіях

Днямі наша рэдакцыя атрымала ад Беларускага Таварыства дружбы і культурнай сувязі з заграніцай у Мінску фотападборку аб святкаванні 40-годдзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Камуністычнай партыі Беларусі ў Мінску.

Для агульнага агляду фатаграфіі будуць змяшчацца ў рэдакцыйным стэндзе, які стаіць па вуліцы Веселаўскага пры будынку рэдакцыі.

### Уласны аўтобус

У мінулы панядзелак Гал. Праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства атрымала аўтобус на 50 месц.

## Юбілейны канцэрт Забэйды — Суміцкага

У сувязі з 30-ай гадавінай творчай працы вядомага беларускага спевака Міхася Забэйды - Суміцкага, які жыве ў Чэхаславакіі, 30 студзеня г. г. у Празе адбыўся юбілейны канцэрт артыста. Міхась Забэйда на гэтым канцэрце, між іншым, выконваў творы беларускага кампазітара Туранкова. Спяваў затым Шастаковіча, Шыманоўскага, чэшскіх і заходнеєўрапейскіх кампазітараў, а таксама народныя песні розных народаў, якія выконваў у арыгінале. (рл)

## Сход прысвечаны 40-годдзю БССР

Дзякуючы стараниям кафедры беларускай філалогіі, 19 студзеня г. г. быў арганізаваны ў Варшаўскім універсітэце ўрачысты сход, прысвечаны слаўнаму юбілею беларускага народа — 40-годдзю ўтварэння Беларускай ССР.

На сход прыбылі дэкан філалагічнага факультэта Варшаўскага Універсітэта беларускай, рускай, украінскай філалогіі, навуковыя работнікі, студэнты.

Старшыня сходу — праф. д-р. Анатоль Міровіч ва ўступным слове звярнуў увагу на шматлікія сувязі, якія лучылі на працягу гісторыі беларускі і польскія народы. «Сёння ў нашых краінах шырока адзначаецца вялікае нацыянальнае свята беларускага народа — 40 год існавання БССР. Няхай сённяшні сход будзе нашым скромным укладам у гэтае святкаванне».

Сход адкрыты. Велічна гучаць гукі дзяржаўнага гімна Беларускай ССР — «...Партыі слава, слава радзіме, слава табе — беларускі народ!»

Навуковы супрацоўнік кафедры беларускай філалогіі — мгр. А. Баршчэўскі ў сваім рэфераце «Беларусь у перыяд кастрычніцкай рэвалюцыі» паказвае слаўны шлях змагання, які прайшла Камуністычная партыя Беларусі і ўсе прагрэсіўныя сілы беларускага народа за перамогу савецкай улады, за ўтварэнне Беларускай ССР. Наступны дакладчык — працаўнік кафедры беларускай філалогіі праф. д-р А. Яблонскі гаворыць аб дасягненнях беларускай навукі ў галіне моваязнаўства. Навуковы супрацоўнік кафедры рускай філалогіі — мгр. В. Белаказовіч у сваім дакладзе прадстаўвіў пачаткі фарміравання беларускай нацыянальнай свядомасці ў першых дзесяцігоддзях XIX стагоддзя.

На заключэнне сходу група студэнтаў беларускай філалогіі выканала некалькі беларускіх песень — «Ой, пайду я, выйду», «Люблю я край, старонку гэту», «Ой, ляцелі гусі». Студэнты Я. Галубоўскі, Г. Багроўская і М. Харкевіч выкачалі вершы беларускіх паэтаў. (ю г.)

### 30 год сацспаборніцтва

30 год таму назад (1929) на ленінградскім заводзе «Чырвоны выбаржац» быў заключаны першы ў гісторыі дагавор на сацыялістычнае спаборніцтва.

## 100 дзён

(Бельск. 7.II.1959 г.)

Даўным - даўно ў нашай краіне вучні сярэдніх школ штогод святкуюць асаблівую ўрачыстасць. Дакладней кажучы, гэтае свята цалкам належыць да вучняў адзінаццатага класа. Яны завуць яго — «стодзёнкай». Значыць, усяго каля 100 дзён засталося ягнэ вучыцца у сценах роднай школы. А пасля, з атэстатам сталасці ў кішэні, павандруюць выхаванцы па бяскрайнаму беламу свету... Бо яны ж ужо становяцца дарослымі людзьмі, і ад гэтага моманту жыццё хапае іх у свой вір, дзе пераадусім трэба лічыць на свае сілы.

Ідучы на «стодзёнку» ў Беларускі Лiцэй у Бельску, не мог я бараніцца ад успамінаў з «сваёй» стодзёнкі... Хвалявання не вялікае. Ведаю, сённяшні суботні вечар многім застанецца ў памяці, як самы дарагі ўспамін...

Сёння ўсе весяляцца. Вось грымнула жартоўная «Барада» затым з юнацкай рамантыкай панялся слова «Малдаванкі». На сценах, здаецца, як бы намаладзелі партрэты Янкі Купалы, Максіма Танка, Тараса Шэўчэнкі, нарысаваныя таленавітай вучнёўскай рукою...

Дзесятая гадзіна. Паволі ціхнуць гукі неўміручага вальса. Пары ідуць на супольную вячэру. На ганаровым месцы бачым мілых настаўнікаў, запрошаных бацькоў і гасцей.

— Дарагая моладзь, — усхвалявана гаворыць дырэктар Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч. — Сёння мы перажываем знамянальны дзень, які з'яўляецца паваротным момантам у вашым жыцці. За сто дзён ужо назаўсёды пакінеце сцены нашай школы... Дык дазвольце пажадаць вам шчаслівых экзаменаў, удачы!

(Працяг на стар. 2.)


Маладым ахвота танцаваць. Але, як відаць, і бацькі не ўсядзелі на месцы...


...за бяседным сталом беларуская песня далёка чуласа па вуліцах мястэчка. Фота — А. Лясоцкі





